# ПАРАДАК СВЯТОЙ ІМШЫ З НАРОДАМ

Для беларусаў каталікоў Рымскага абраду.

Беларускі тэкст зацверджаны Апостальскай Сталіцай.



CONGREGATIO PRO CULTU DIVINO

Prot. 591/85

PONTIFICIAE COMMISSIONIS PRO RUSSIA

Instante Pontificia Commissione pro Russia, litteris die 20 martii 1985 datis, vigore facultatum huic Congregationi a Summo Pontifice IOANNE PAULO II tributarum, interpretationem b i e l o r u s s i c a m MISSALIS ROMANI, prout exstat in exemplari ad nos misso, libenter probamus seu confirmamus.

In textu imprimendo mentio fiat de confirmatione ab Apostolica Sede concessa. Eiusdem textus impressi duo exemplaria ad hanc Congregationem transmittantur.

Contrariis quibuslibet minime obstantibus.

Ex aedibus Congregationis pro Cultu Divino, die 14 novembris 1985.

P. A. Card. Mayer

(Paulus Augustinus Card. Mayer,osb)
Praefectus

+ Vergilius Noè

(+Vergilius Noè)
Archiep. tit. Voncariensis
a Secretis

# ПАРАДАК СВЯТОЙ ІМШЫ З НАРОДАМ

## ПАЧАТКОВЫЯ АБРАДЫ

Святар, падышоўшы з міністрантамі да аўтара (ахвярніка), кленчыць, схіляе галаву цалуе яго ў знак пашаны і, калі прадбачана, кадзіць. Потым ідзе з міністрантамі да сядзенняў (услону).

Пасля заканчэння уваходнага спеву, святар і людзі, стоячы, жагнаюцца, і святар, павярнуўшыся да людзей, кажа:

**С.** У імя Айца і Сына, і Духа Святога.

**Л.** Амэн.

Святар, расклаўшы рукі, вітае людзей:

**С.** Ласка Госпада нашага Езуса Хрыста і любоў Бога Айца, і ўчасце Духа Святога хай будзе з усімі вамі.

**Л.** І з духам тваім.

---

Іншая форма прывітання:

**С.** Госпад з вамі (**Біскуп**: Мір вам).

**Л.** І з духам тваім .

---

Святар можа на гэтым месцы коратка пазнаёміць людзей з Імшой гэтага дня, пасля чаго заклікае ўсіх да пакаяння:

**С.** Пакаймася, браты і сёстры, за нашы грахі, каб нам быць дастойнымі адпраўляць гэтую службу.

Пасля кароткага маўчання, усе разам кажуць акт пакаяння:

Прызнаюся Богу Ўсемагутнаму і вам, браты і сёстры, што зграшыў я вельмі думкаю, словам, ўчынкам і нядбайнасцю (б'юцца ў грудзі): мая віна, мая віна, мая вельмі вялікая віна. Таму прашу Найсвяцейшую Марыю, заўсёды Дзеву, усіх анёлаў і святых, і вас, браты і сёстры, памаліцца за мяне да Госпада Бога нашага.

Святар просіць адпушчэння грахоў (абсалюцыі):

С. Хай зжаліцца над намі ўсемагутны Бог і, адпусціўшы нам грахі, давядзе да жыцця вечнага.

Л. Аман.

---

Другая форма акту пакаяння (паводле выбару):

С. Папросім прабачэння ў Бога за нашы грахі, каб нам годна прыняць Слова Божае і прынесці Найвышэйшую Ахвяру.

Пасля кароткага маўчання:

С. Госпадзе, зжалься над намі.

Л. Бо мы зграшылі процiў Цябе.

С. Акажы нам, Госпадзе, Тваю міласэрнасць.

Л. І дай нам Тваё збаўленне.

С. Хай зжаліцца над намі ... (гл. вышэй)

Трэцяя форма акту пакаяння.

С. Прызнаймася перад Богам у грахах нашых, і будзем прасіць Яго аказаць нам міласэрнасць, каб мы маглі годна прынесці Святую Ахвяру.

Пасля кароткага маўчання:

С. Хрысце, пасланы аздараўляць скрушлівыя сэрцы .

Л. Зжалься над намі

С. Хрысце, які прыйшоў ратаваць грэшнікаў:

Л. Зжалься над намі.

С. Хрысце, які сядзіш па правай руцэ Айца, каб заступацца за нас.

Л. Зжалься над намі

С. Хай зжаліцца над намі ... (гл. вышэй)

---

Ускліканні да Госпада Хрыста (за выняткам, калі была ўжытая трэцяя форма пакаяння):

С. Госпадзе, зжалься над намі.

Л. Госпадзе, зжалься над намі.

С. Хрысце, зжалься над намі.

Л. Хрысце, зжалься над намі.

С. Госпадзе, зжалься над намі.

Л. Госпадзе, зжалься над намі.

У нядзелі, вялікія святы і ўрачыстасці (за выняткам часу Адвэнту і Вялікага Посту), усе спяваюць або гавораць наступную хвалебную песню:

Слава на вышынях Богу, а на зямлі супакой людзям добрай волі. Хвалім Цябе, бласлаўляем Цябе, кланяемся Табе, славім Цябе, дзякуем Табе дзеля вялікай хвалы Тваёй. Госпадзе Божа, Валадару нябесны, Божа Ойча ўсемагутны; Госпадзе, Сыне Адзінародны Езусе Хрысце; Госпадзе Божа, Ягнё Божае, Сыне Айца, што ўзяў на сябе грахі свету, зжалься над намі; Ты, што ўзяў на сябе грахі свету, прымі маленне наша; што сядзіш па правай руцэ Айца, зжалься над намі! Бо Ты, Езусе Хрысце, адзін святы, адзін Госпад, адзін Найвышэйшы, разам з Духам Святым у славе Бога Айца. Аман.

С. Малемся.

Усе ціха моляцца праз нейкі час. Пасля святар, з узнятымі рукамі, гаворыць малітву (калекту); калі скончыць, людзі адказваюць:

Л. Аман.

## ЛІТУРГІЯ СЛОВА

Чытальнік, або святар, ідзе да амбоны і чытае адзін або два тэксты з Святога Пісання, у канцы кожнага кажучы:

С. Вось слова Божае!

Л. Дзякуем Богу!

У нядзелі і вялікія святы, калі бываюць два чытанні перад Евангеллем, пасля першага спяваецца асобны псальм з прыпевамі, а пасля другога – Алелюя, або іншы адпаведны спеў у залежнасці ад часу літургічнага года.

**Евангелле.**

Калі прыпісана, святар усыпае ладан у кадзільніцу. Потым схіліўшыся ў бок аўтара, кажа ціха:

Усемагутны Божа, ачысці сэрца маё і вусны мае, каб я мог годна абвяшчаць Тваё святое Евангелле.

Пасля, у суправаджэнні міністрантаў са свечкамі і, калі належыцца, з кадзільніцай, ідзе да амбоны і кажа:

С. Госпад з вамі

Л. І з духам тваім.

С. Чытанне святога Евангельля паводле <u>Н</u>.

Л. Хвала Табе, Госпадзе!.

Святар, зрабіўшы пальцам знак крыжа на кнізе, чале, вуснах і грудзях, чытае Евангельле. Скончыўшы, кажа:

**С.** Вось слова Гаподняе.

**Л.** Слава Табе, Хрысце!.

Святар цалуе Кнігу Евангельля, кажучы ціха:

Хай словы Евангелля скасуюць грахі вашы.

Пасля Евангельля бывае казань (гамілія), абавязковая ў нядзелі і вялікія святы, пажаданая ў іншыя дні. Пасля казані, ў нядзелі і вялікія святы, і калі паложана, бывае Вызнанне веры, якое гавораць усе:

Веру ў адзінага Бога Айца Ўсемагутнага Тварца неба і зямлі, бачнага ўсяго і нябачнага; і ў адзінага Госпада Езуса Хрыста, Сына Божага, Адзінароднага, ад Айца народжанага перад усімі вякамі; Святло ад Святла, праўдзівага Бога ад праўдзівага Бога, народжанага, няствbooранага, адзінасутнага з Айцом, праз якога ўсё стала быць. Ён дзеля нас людзей і дзеля нашага збаўлення зышоў з неба; прыняў цела за справай Духа Святога з Дзевы Марыі і стаўся чалавекам; быў укрыжаваны за нас пры Понцкім Пілаце, цярпеў і быў пахаваны, і на трэці дзень уваскрос паводле Пісання; узышоў на неба і сядзіць па правай руцэ Айца; і зноў прыйдзе ў славе судзіць жывых і мёртвых, і Яго валадарству не будзе канца.
Веру ў Духа Святога, Госпада жыватворчага, які ад Айца і Сына паходзіць, якому належыцца пакланенне і слава разам з Айцом і Сынам, які гаварыў праз пракарокаў.
Веру ў адзін святы, каталіцкі і апостальскі Касцёл. Прызнаю адзін хрост для адпушчэння грахоў. Чакаю ўваскрасення мёртвых і жыцця вечнага. Аман.

Пасля гэтага бывае ўсеагульная малітва, або малітва верных .

## ЛІТУРГІЯ ЭЎХАРЫСТЫЧНАЯ

Пасля літургіі слова пачынаецца спеў (неабавязковы) на прыгатаванне дараў. У міжчасе міністранты раскладаюць на ахвярніку карпарал і пурыфікатар, ставяць чашу і кладуць імшал.

**Ахвяраванне дараў.**

Калі няма спеву, святар узяўшы патэну з хлебам і падняўшы яе крыху, кажа ўголас:

С. Благаславёны Ты, Госпадзе, Божа сусвету, бо дзякуючы Тваёй шчодрасці мы атрымалі хлеб, які з'яўляецца плодам зямлі і рук людскіх. Ахвяруем яго Табе, каб ён стаўся для нас хлебам жыцця.

Л. Благаславёны Ты, Божа, цяпер і на век.

Пасля ўлівае ў чашу віно і крыху вады, кажучы ціха:

Праз тайну злучэння гэтай вады і віна дай нам, Божа, удзел у боствe Хрыста, які захацеў стацца ўдзельнікам нашага чалавецтва.

Бярэ чашу, падымае яе і кажа:

С. Благаславёны Ты, Госпадзе, Божа сусвету, бо дзякуючы Тваёй шчодрасці мы атрымалі віно, якое з'яўляецца плодам вінаграднага куста і працы рук людскіх. Ахвяруем яго Табе, каб яно сталася для нас духоўным пітвом.

Л. Благаславёны Ты, Божа, цяпер і на ўсе вякі.

Паставіўшы чашу і схіліўшыся, святар прадаўжае ціха:

Прымі нас, Госпадзе, якія стаім перад Табою ў духу пакоры і з сэрцам скрушлівым: няхай наша ахвяра, якую сёння прыносім перад Табою, будзе Табе да спадобы.

Калі прадбачана, святар кадзіць дары, а міністрант - святара і людзей. Святар мые рукі, кажучи ціха:

Абмый мяне ад віны маёй і ад граху майго ачысці мяне.

Потым, адвярнуўшися да людзей, кажа ўголас:

С. Маліцеся, браты і сёстры, каб мая і ваша ахвяра была мілай Богу Айцу Ўсемагутнаму.

Л. Хай прыме Госпад ахвяру з рук тваіх на ўшанаванне і хвалу імя Свайго, а таксама на карысць нам і ўсяму Касцёлу.

Святар, падняўшы рукі, кажа малітву над дарамі.

Л. Аман

**Малітва Эўхарыстычная**

С. Госпад з вамі.

Л. І з духам тваім.

С. Узнімем сэрцы.

Л. Мы ўзнялі іх да Госпада.

С. Падзякуем Госпаду Богу Нашаму.

Л. Годна і справядліва.

Святар чытае або пяе адпаведную Прэфацыю (гл. стар. 29), канчаючи яе наступнымі словамі разам з **усімі вернымі**:

Святы, святы святы Госпад магуццяў. Неба і зямля поўныя славы Тваёй. Гасанна на вышынях, блаславёны той, хто прыходзіць у імя Госпада. Гасанна на вышынях.

**Першая Эўхарыстычная малітва або Рымскі канон.**

Гэтую малітву можна браць заўсёды. Яна добра падыходзіць да тых дзён, якія не маюць сваіх святых, або эпіклезу, у дні апосталаў і святых, якія ўспамінаюцца ў ёй, а таксама ў нядзелі, хіба што з душпастырскіх меркаванняў лепш падыходзілі б іншыя малітвы. Тэксты ў дужках можна прапусціць.

С. (склаўшы рукі): Прымі і благаславі + гэтыя дары і прынашэнні, гэтыя беззаганныя ахвяры (благаслаўляе хлеб і чашу).
(Расклаўшы рукі): Прыносім іх найперш за Касцёл Твой святы Каталіцкі, які будзь ласкаў трымаць ў супакоі і еднасці, берагчы і кіраваць ім ва ўсім свеце, разам з слугою Тваім нашым Папаю НН, біскупам нашым НН, і з усімі вызнаўцамі святое каталіцкае і апостальскае веры.
(Успамін жывых). Успомні, Госпадзе, слуг і служанак Тваіх НН (успамінае па імю жывых, каго хоча, тады прадаўжае): І ўсіх жывых тут прысутных, вера і адданасць якіх Табе вядомыя. За іх прыносім Табе гэтую ахвяру хвалы, і яны самі таксама ахвяруюць Табе, вечнаму жывому і праўдзіваму Богу, свае малітвы за саміх сябе і ўсіх сваіх, каб ім удастоіцца адкуплення і збаўлення.
(Успамін святых). Разам з усім Касцёлам, найперш з пашанаю ўспамінаем Праслаўленую Найсвяцейшую Марыю, Заўсёды Дзеву Маці Госпада і Бога нашага Езуса Хрыста, а таксама святога Язэпа, сужонка Найсвяцейшае Дзевы, а з імі святых апосталаў і мучанікаў Тваіх: Пятра і Паўла, Андрэя (Якуба, Яна, Тамаша, Якуба, Піліпа, Баўтрамея, Мацвея, Сымона, Тадэвуша, Ліна, Клета, Клімента, Сыкста, Карнэлія, Цыпрыяна, Лаўрэна, Хрызагона, Яна і Паўла, Касму і Дзямяна) і ўсіх святых Тваіх.
Дзеля іх заслугаў і просьбаў акружай нас сваёю апекаю. Праз Хрыста Госпада нашага. Аман.

---

У некаторыя святы успамін святых спалучаецца з успамінам дня.

У нядзелі пачынаем успамін наступным спосабам:

Злучаныя з усім Касцёлам урачыста адзначаем першы дзень тыдня, у які Езус Хрыстос устаў з мёртвых і паслаў на апосталаў

сваіх Духа Святога, мы найперш з пашанаю ўспамінаем Праслаўленую Дзеву Марыю ...

На Нараджэнне Госпада і ў актаву:

Разам з усім Касцёлам адзначаючы гэтую святую ноч (святы дзень), у які Святая Дзева Марыя, беззаганная Маці нарадзіла на гэты свет Збавіцеля, мы найперш з пашанаю ўспамінаем ...

На Аб'яўленне Госпада ("Тры каралі"):

Разам з усім Касцёлам, прыпамінаючы святы дзень, у які Адзінародны Сын Твой, вечна з Табою роўны ў хвале, аб'явіўся нам бачна пад відам цела чалавечага, мы найперш з пашанаю ўспамінаем...

На Імшы Вігіліі Вялікоднай аж да Другой Вялікоднай Нядзелі:

Злучаныя з усім Касцёлам, прыпамінаючы святую ноч [святы дзень], у якую [які] Госпад наш Езус Хрыстос уваскрос з мёртвых, мы найперш з пашанаю ўспамінаем...

На Ўшэсце:

Разам з усім Касцёлам, святкуючы дзень ушэсця, у які Госпад наш Адзінародны Сын Твой, прыняўшы нашую кволую натуру, сеў па правай руцэ Тваёй, мы найперш з пашанаю ўспамінаем ...

На Сёмуху:

Разам з усім Касцёлам, святкуючы дзень святы Саслання Духа Святога, у які Дух Святы з'явіўся у выглядзе вогненых языкоў, мы найперш з пашанаю ўспамінаем ...

---

Прапягнуўшы рукі над ахвяраванымі дарамі, святар прадаўжае:

С. Просім Цябе, Боже, прымі ласкава гэтую ахвяру ад нас, слуг Тваіх і ад усяго народу Твайго і ўтрымай дні нашы ў супакоі, захавай нас ад вечнай загубы і далучы да Тваіх выбраннікаў.

Складае рукі:

Праз Хрыста, Госпада нашага. Аман.

---

На Імшы Вігіліі Вялікадня ах да Другой Вялікоднай нядзелі:

Просім Цябе, Божа, прымі ласкава гэтую ахвяру ад нас, слуг Тваіх і ад усяго народу Твайго, якую ахвяроўваем Табе такжа за тых, каго Ты вадою хросту і сілаю Духа Святога вызваліў з няволі граху і адрадзіў да жыцця. Утрымай дні нашы ў супакоі, захавай нас ад вечнай загубы і далучы да Тваіх выбраннікаў.

Складае рукі:

Праз Хрыста, Госпада нашага. Аман

---

Працягнуўшы рукі над дарамі, святар моліцца далей:

С. Гэтыя ахвяры просім Цябе, Божа, паблаславіць, прыняць, пацвердзіць, удухавіць і мілымі сабе зрабіць [паблаславіць і пасвяціць], каб сталіся яны Целам і Крывёю Наймілейшага Сына Твайго Езуса Хрыста.

Складае рукі і гаворыць паволі, выразна і з належнай пашанаю:

С. НАПЯРЭДАДНІ МУКІ

Бярэ хлеб у рукі і, падняўшы яго крыху над ахвярнікам, прадаўжае:

УЗЯЎ ХЛЕБ У СВАЕ СВЯТЫЯ І БЯЗВІННЫЯ РУКІ І, ПАДНЯЎШЫ ВОЧЫ ДА НЕБА (падымае вочы), ДА ЦЯБЕ, БОЖА ОЙЧА ЎСЕМАГУТНЫ, ПАДЗЯКУ ТАБЕ СКЛАДАЮЧЫ, БЛАСЛАВІЎ, ЛАМАЎ І ПАДАЎ СВАІМ ВУЧНЯМ, КАЖУЧЫ:

Схіляецца крыху:

**БЯРЫЦЕ І ЕШЦЕ З ГЭТАГА ЎСЕ, БО ГЭТА ЁСЦЬ ЦЕЛА МАЁ, ЯКОЕ ЗА ВАС ДАЕЦЦА.**

Пасвячаную Гостыю, падняўшы паказвае людзям і зноў кладзе на патэну, прыкленчыўшы, адаруючы; потым кажа:

ПАДОБНЫМ СПОСАБАМ, ПА ВЯЧЭРЫ ЁН УЗЯЎ І ГЭТУ ПАЧЭСНУЮ ЧАШУ Ў СВАЕ СВЯТЫЯ І БЯЗВІННЫЯ РУКІ, ЗНОЎ ТАБЕ ПАДЗЯКУ СКЛАДАЮЧЫ, БЛАСЛАВІЎ І ПАДАЎ СВАІМ ВУЧНЯМ, КАЖУЧЫ:

Крыху схіляецца:

**БЯРЫЦЕ І ПІЙЦЕ З ЯЕ ЎСЕ, ГЭТА ЁСЦЬ ЧАША КРЫВІ МАЁЙ НОВАГА І ВЕЧНАГА ЗАПАВЕТУ, ЯКАЯ ПРАЛІВАЕЦЦА ЗА ВАС І МНОГІХ ДЛЯ АДПУШЧЭННЯ ГРАХОЎ. РАБІЦЕ ГЭТА НА МАЮ ПАМЯЦЬ.**

Падняўшы, паказвае чашу людзям, зноў ставіць на карпарал і з пашанай прыкленчвае; потым кажа:

С. Вось таямніца веры!

Л. Абвяшчаем смерць Тваю, Госпадзе, вызнаем Тваё ўваскрасенне і чакаем Твайго прыйсця ў хвале.

Або:

Калі толькі ядзім хлеб гэты і п'ем з гэтай чашы, мы апавяшчаем смерць Тваю, Госпадзе, чакаючы прыйсця Твайго ў хвале.

Або:

Збаў нас, Збавіцелю свету, Ты праз крыж і ўваскрасенне адкупіў нас.

Пасля, працягнуўшы рукі, святар кажа:

С. Таму і мы, Госпадзе, слугі Твае і ўвесь люд Твой святы, успамінаючы святую муку, уваскрасенне з умерлых, а таксама хвалебнае ўшэсце таго ж Хрыста, Сына Твайго, Госпада нашага, паручаем Найсвяцейшай Велічы Тваёй з даных Табою дароў гостыю чыстую, гостыю святую, гостыю беззаганную, хлеб святы жыцця вечнага і чашу вечнага збаўлення.

Глянь на іх спагадліва і міласціва і прымі іх ласкава, як ласкава Ты прыняў дары слугі Твайго справядлівага Абеля і ахвяру патрыярха нашага Абрагама, і прынашэнне, якое ўчыніў Табе найвышэйшы святар Твой Мелхіседэк - ахвяру святую, беззаганную Гостыю.

Схіліўшыся і склаўшы рукі, прадаўжае:

Пакорна молім Цябе, Усемагутны Божа, загадай святому анёлу Твайму занесці гэтую ахвяру на ахвярнік Твой нябесны, перад воблік велічы Тваёй Божай, каб, прыняўшы з гэтага ахвярніка Найсвяцейшае Цела і Кроў Сына Твайго

Выпростоўваецца і хрысціцца:

Напоўніліся мы ўсякім блаславенствам нябесным і ласкаю.

Складае рукі:

Праз Хрыста, Госпада нашага. Аман.

Працягнуўшы рукі, кажа:

Памятай таксама, Госпадзе, пра слуг і служанак Тваіх НН, якія раней за нас у веры адышлі з гэтага свету і спяць сном супакою.

Склаўшы рукі, успамінае ціха па імю памёршых, каго хоча; пасля, працягнуўшы рукі, прадаўжае:

Прымі іх, Госпадзе, і ўсіх, што памерлі ў еднасці з Хрыстом, у краіну святла, супакою і супачынку.

Складае рукі:

Праз Хрыста, Госпада нашага. Аман.

Б'ецца правай рукой у грудзі:

Такжа і нам (працягвае рукі), што спадзяюцца на вялікую

міласэрнасць Тваю, дай удзел са святымі Тваімі апосталамі і мучанікамі : Янам, Сцяпанам, Барнабай, (Ігнатам, Аляксандрам, Марцэлінам, Пятром, Феліцыяй, Перпетуай, Агатай, Люцыяй, Агнешкай, Цэцыліяй, Анастазыяй) і з усімі святымі Тваімі; прымі, просім, і нас у іх супольнасць, не дзеля нашых заслугаў, але дзеля Тваёй спагадлівасці.

Складае рукі:

Праз Хрыста, Госпада нашага. Аман.

Прадаўжае:

Праз Яго, Госпадзе, творыш гэтыя ўсе даброты - асвячаеш, ажыўляеш, бласлаўляеш і даеш нам.

Падняўшы патэну з Гостыяй і чашу, каже:

П р а з  Я г о,  з  І м  і  ў  І м  Табе, Усемагутны Божа Ойча, у адзінстве Духа Святога ўся хвала і слава спакон вякоў, вечна.

Л. Аман.

Далей ідзе абрад камуніі, гл. стар. 24

---

### Другая Эўхарыстычная малітва

Бярэцца ў будні дні, або на спецыяльныя нагоды; мае сваю прэфацыю, якую аднак можна замяніць іншаю.

С. Госпад з вамі.

Л. І з духам тваім.

С. Узнімем сэрцы!

Л. Мы ўзнялі іх да Госпада.

С. Падзякуем Госпаду Богу Нашаму.

Л. Дастойна і праведна.

С. Сапраўды дастойна і справядліва, патрэбна і збавенна, заўсёды і ўсюды складаць падзяку Табе, Святы Ойча, праз Сына Твайго мілага, Езуса Хрыста - Слова Тваё, - праз Якога Ты ўсё стварыў, і Якога паслаў нам як Збавіцеля і Адкупіцеля, учалавечанага за справай Духа Святога, народжнага Дзевай Марыяй.
Ён, каб споўніць Тваю волю і прыгатаваць Табе народ святы, распасцёр рукі прыбітыя да крыжа і такім чынам перамог смерць і аб'явіў уваскрасенне.
Таму і мы з анёламі і ўсімі святымі славім Цябе, у адзін голас усклікаючы:

**Усе разам:**

Святы, святы святы Госпад магуццяў. Неба і зямля поўныя славы Тваёй. Гасанна на вышынях, блаславёны той, хто прыходзіць у імя Госпада. Гасанна на вышынях.

**Працягнуўшы рукі, святар прадаўжае:**

Сапраўды святы Ты Госпадзе, крыніца ўсякай святасці

**Склаўшы рукі і працягнуўшы іх над дарамі:**

Пасвяці, молім, гэтыя дары расою Духа Твайго,

**Робіць знак крыжа запар над хлебам і чашаю:**

каб яны сталіся Целам і + Крывёю Госпада Нашага Езуса Хрыста.

**Гаворыць паволі, выразна, з пашанаю:**

КАЛІ ДАБРАВОЛЬНА МЕЎ БЫЦЬ ВЫДАНЫ НА МУКІ

**Бярэ хлеб у рукі і, падняўшы яго крыху над ахвярнікам, прадаўжае:**

ЁН УЗЯЎ ХЛЕБ У СВАЕ СВЯТЫЯ І БЯЗВІННЫЯ РУКІ І, ПАДНЯЎШЫ ВОЧЫ ДА НЕБА (**падымае вочы**), ДА ЦЯБЕ, БОЖА ОЙЧА ЎСЕМАГУТ-

НЫ, ПАДЗЯКУ ТАБЕ СКЛАДАЮЧЫ, БЛАСЛАВІЎ, ЛАМАЎ І ПАДАЎ СВАІМ ВУЧНЯМ, КАЖУЧЫ:

Схіляецца крыху:

**БЯРЫЦЕ І ЕШЦЕ З ГЭТАГА ЎСЕ, БО ГЭТА ЁСЦЬ ЦЕЛА МАЁ, ЯКОЕ ЗА ВАС ДАЕЦЦА.**

Пасвячаную Гостыю, падняўшы паказвае людзям і зноў кладзе на патэну, прыкленчыўшы, адаруючы; потым кажа:

ПАДОБНЫМ СПОСАБАМ, ПА ВЯЧЭРЫ ЁН УЗЯЎ І ГЭТУ ПАЧЭСНУЮ ЧАШУ Ў СВАЕ СВЯТЫЯ І БЯЗВІННЫЯ РУКІ, ЗНОЎ ТАБЕ ПАДЗЯКУ СКЛАДАЮЧЫ, БЛАСЛАВІЎ І ПАДАЎ СВАІМ ВУЧНЯМ, КАЖУЧЫ:

Крыху схіляецца:

**БЯРЫЦЕ І ПІЙЦЕ З ЯЕ ЎСЕ, ГЭТА ЁСЦЬ ЧАША КРЫВІ МАЁЙ НОВАГА І ВЕЧНАГА ЗАПАВЕТУ, ЯКАЯ ПРАЛІВАЕЦЦА ЗА ВАС І МНОГІХ ДЛЯ АДПУШЧЭННЯ ГРАХОЎ. РАБІЦЕ ГЭТА НА МАЮ ПАМЯЦЬ.**

Падняўшы, паказвае чашу людзям, зноў ставіць яе на карпарал і з пашанай прыкленчвае; потым кажа:

С. Вось таямніца веры!

Л. Абвяшчаем смерць Тваю, Госпадзе, вызнаем Тваё ўваскрасенне і чакаем Твайго прыйсця ў хвале.

Або:

Калі толькі ядзім хлеб гэты і п'ем з гэтай чашы, мы апавяшчаем смерць Тваю, Госпадзе, чакаючы прыйсця Твайго ў хвале.

Або:

Збаў нас, Збавіцелю свету, Ты праз крыж і ўваскрасенне адкупіў нас.

Пасля, працягнуўшы рукі, святар кажа:

С. Успамінаючы тады Ягоную смерць і ўваскрасенне, ахвяроўваем Табе, Госпадзе, хлеб жыцца і чашу збаўлення, дзякуючы, што ўважыў нас быць дастойнымі стаяць перад Табою і служыць Табе.
Дык пакорна просім, каб нас, удзельнікаў ахвяры Цела і Крыві Хрыстовай, Дух Святы злучыў у адно.
Памятай Госпадзе, пра Касцёл Твой на ўсім свеце, гатуй у ім дасканалую любоў, апякуйся нашым Папаю НН, нашым біскупам НН, і ўсім духавенствам.

---

У імшах за памёршых можна дадаць:

Памятай на слугу Твайго (служанку Тваю) НН, якога (якую) Ты паклікаў (сёння) да сябе з гэтага свету. Ён (яна) хростам быў (была) злучаны (злучаная) са смерцю Твайго Сына, дык хай будзе злучаны (злучаная) з Яго ўваскрасеннем.
Помні таксама пра братоў і сёстраў нашых, якія паснулі ў надзеі ўваскрасення, і для ўсіх памёршых мей міласэрнасць. Дапусці іх аглядаць светласць аблічча Твайго.
Молім Цябе таксама, пашкадуй нас усіх, каб мы сталіся шчаслівцамі вечнага жыцця разам з Найсвяцейшай Маці Божаю, Дзевай Марыяй, са святымі апосталамі і ўсімі святымі, якія Табе спрадвеку спадабаліся, каб хвалілі мы Цябе і славілі.

---

Складае рукі

Праз Сына Твайго Езуса Хрыста.

Бярэ патэну з Гостыяй і чашу і, падняўшы іх, кажа:

Праз Яго і з Ім, і ў Ім Табе, Усемагутнаму Богу Айцу, у адзінстве Святога Духа ўся пашана і слава спакон вякоў, вечна.

Л. Аман.

Далей ідзе абрад Камуніі, гл. стар. 24

---

**Трэцяя Эўхарыстычная Малітва**

Трэцяй Эўхарыстычнай малітвай, якая бярэцца з любой прэфацыяй, можна карыстацца ў нядзелі і святы.

С. Сапраўды Ты, Госпаде, Святы і заслужана славіць Цябе ўсё Табою заснаванае стварэнне. Праз Сына бо Твайго, Госпада нашага Езуса Хрыста, сілаю Духа Святога ўвесь свет ажыўляеш і асвячаеш і не перастаеш збіраць народ Сабе, каб ад усходу сонца да захаду складаў на хвалу Тваю чыстую ахвяру.

Складае рукі, працягвае іх над дарамі:

Таму просім Цябе, Госпадзе, сілаю Духа Святога пасвяці гэтыя дары,

Робячы запар знак крыжа над хлебам і чашаю, кажа:

каб яны сталіся нам Целам і + Крывёю Сына Твайго Госпада Нашага Езуса Хрыста,

Складае рукі:

На загад Якога гэтую таямніцу святкуем.

Гаворыць паволі і выразна:

ЁН У ТУЮ НОЧ, КАЛІ МЕЎ БЫЦЬ ВЫДАДЗЕНЫ

Бярэ хлеб у рукі і, падняўшы яго крыху над ахвярнікам, прадаўжае:

УЗЯЎ ХЛЕБ У СВАЕ СВЯТЫЯ І БЯЗВІННЫЯ РУКІ І, ПАДНЯЎШЫ ВОЧЫ ДА НЕБА ( падымае вочы), ДА ЦЯБЕ, БОЖА ОЙЧА ЎСЕМАГУТНЫ, ПАДЗЯКУ ТАБЕ СКЛАДАЮЧЫ, БЛАСЛАВІЎ, ЛАМАЎ І ПАДАЎ СВАІМ ВУЧНЯМ, КАЖУЧЫ:

Схіляецца крыху:

**БЯРЫЦЕ І ЕШЦЕ З ГЭТАГА ЎСЕ, БО ГЭТА ЁСЦЬ ЦЕЛА МАЁ, ЯКОЕ ЗА ВАС ДАЕЦЦА.**

Пасвячаную Гостыю, падняўшы паказвае людзям і зноў кладзе на патэну, прыкленчыўшы, адаруючы; потым кажа:

ПАДОБНЫМ СПОСАБАМ, ПА ВЯЧЭРЫ ЁН УЗЯЎ І ГЭТУ ПАЧЭСНУЮ ЧАШУ Ў СВАЕ СВЯТЫЯ І БЯЗВІННЫЯ РУКІ, ЗНОЎ ТАБЕ ПАДЗЯКУ СКЛАДАЮЧЫ, БЛАСЛАВІЎ І ПАДАЎ СВАІМ ВУЧНЯМ, КАЖУЧЫ:

Крыху схіляецца:

**БЯРЫЦЕ І ПІЙЦЕ З ЯЕ ЎСЕ, ГЭТА ЁСЦЬ ЧАША КРЫВІ МАЁЙ НОВАГА І ВЕЧНАГА ЗАПАВЕТУ, ЯКАЯ ПРАЛІВАЕЦЦА ЗА ВАС І МНОГІХ ДЛЯ АДПУШЧЭННЯ ГРАХОЎ. РАБІЦЕ ГЭТА НА МАЮ ПАМЯЦЬ.**

Падняўшы, паказвае чашу людзям, зноў ставіць на карпарал і з пашанай прыкленчвае; потым кажа:

С. Вось таямніца веры!

Л. Абвяшчаем смерць Тваю, Госпадзе, вызнаем Тваё ўваскрасенне і чакаем Твайго прыйсця ў хвале.

Або:

Калі толькі ядзім хлеб гэты і п'ем з гэтай чашы, мы апавяшчаем смерць Тваю, Госпадзе, чакаючы прыйсця Твайго ў хвале.

Або:

Збаў нас, Збавіцелю свету, Ты праз крыж і ўваскрасенне адкупіў нас.

Пасля, працягнуўшы рукі, святар кажа:

С. Успамінаючы тады вось, Госпадзе, збавенную муку таго ж Сына Твайго і Яго цудоўнае ўваскрасенне і ўшэсьце да неба, а таксама

чакаючы Ягонага паўторнага прыйсця, з удзячнасцю складаем Табе гэтую жывую і святую ахвяру.

Глянь, просім, на ахвяру Касцёла Твайго і гэтае Ягнё, ахвяраваннем якога Ты хацеў быць уміласціўлены.

Хай спасіленыя Целам і Крывёю Сына Твайго і ажыўленыя Духам Яго Святым, станемся адным целам і адным духам у Хрысце.

Хай Ён сам учыніць нас вечным Табе дарам, каб мы маглі асягнуць спадчыну з выбраннікамі Тваімі, перадусім з Найсвяцейшай Дзевай, Багародзіцай Марыяй, са святымі апосталамі Тваімі і пахвалыгоднымі мучанікамі (са святым Н – святым дня або апекуном-патронам ), з усімі святымі, дзеля заступніцтва якіх мы спадзяемся на Тваю дапамогу. Хай гэтая ахвяра прымірэння прычыніцца, просім Цябе, Госпадзе, да міру на ўсім свеце і да збаўлення.

Будзь ласкаў умацаваць у веры і любові Касцёл Твой, падарожніка на зямлі разам са слугою Тваім Папай НН і нашым біскупам НН, з усімі біскупамі, і ўсім духавенствам і з усім народам, Табою адкупленым. Будзь міласцівы на просьбы гэтае духоўнае сям'і, якая сабралася тут згодна з Тваёй воляй.

Міласэрны Ойча, збяры да Сябе з ласкі Сваёй усіх рассеяных па свеце дзяцей Тваіх і злучы іх у адно.

Таксама братоў і сёстраў нашых памёршых і ўсіх, што ў ласцы Тваёй адышлі з гэтага свету, ласкава прымі ў валадарства Твае, якое спадзяемся атрымаць, каб вечна і разам захапляцца хвалой Тваёй.

---

**На жалобнай Імшы апошнюю частку можна замяніцвь наступнаю:**

Помні пра слугу Твайго [служанку Тваю] якога [якую)] Ты сёння паклікаў з гэтага свету. Дай, каб ён [яна], што праз хрост стаўся ўдзельнікам [сталася ўдзельніцай] смерці Сына Твайго, стаўся [сталася] падобным [падобнай] Яму ва ўваскрасенні з памёршых, калі Ён памёршых уваскрасіць цялесна з зямлі і цела кволасці нашай упадобніць да праслаўленага цела Свайго.

Таксама братоў і сёстраў нашых памёршых і ўсіх, што ў ласцы Тваёй адышлі з гэтага свету, ласкава прымі ў валадарства Твае, якое спадзяемся атрымаць, каб вечна і разам захапляцца хвалой Тваёй.

Там сатрэш апошнюю слязу з вачэй нашых, а мы, аглядаючы Цябе тварам у твар, будзем вечна да Цябе падобнымі ды Цябе будзем хваліць безупынна.

---

Складае рукі:

Праз Хрыста, Госпада Нашага, праз якога абдзяляеш свет усякім дабром.

Л. Аман.

Далей ідзе абрад Камуніі, гл. стар. 24

---

**Чацвертая Эўхарыстычная Малітва**

Гэтая малітва мае нязменнуёю прэфацыю. Яе можна браць на імшах, якія не маюць уласнай прэфацыі.

С. Госпад з вамі.

Л. І з духам тваім.

С. Узнімем сэрцы.

Л. Мы ўзнялі іх да Госпада.

С. Падзякуем Госпаду Богу Нашаму.

Л. Годна і справядліва.

С. Сапраўды дастойна складаць падзяку Табе і справядліва славіць Цябе, Святы Ойча, бо Ты наш Бог жывы і праўдзівы.
Ты спакон вякоў і векавечны, пражываеш у недаступным святле.
Ты адзіны добры, Ты крыніца жыцця, Ты стварыў свет і абдзяляеш творы Твае Тваім блаславеннем, і радуеш усіх ззяннем святла Твайго.
Днём і ноччу стаяць перад Табою незлічоныя хоры анёлаў, служачы Табе. Захапляюцца яны хвалай аблічча Твайго і

безупынку Цябе славяць. З імі і мы сваёю спахвалой, як і ўвесь свет, славім у захапленні імя Тваё, спяваючы:

**Усе разам:**

Святы, святы святы Госпад магуццяў. Неба і зямля поўныя славы Тваёй. Гасанна на вышынях, блаславёны той, хто прыходзіць у імя Госпада. Гасанна на вышынях.

**Святар, падняўшы рукі, прадаўжае:**

Славім Цябе, Святы Ойча, бо магутны Ты. Усё Ты стварыў прамудра з любоўю. Стварыў чалавека на падобнасць Сваю і паручыў яму ў апеку ўвесь свет, каб служачы Табе, адзінаму Тварцу, валодаў усімі творамі. А калі праз непаслухмянасць страціў ён ласку Тваю ў Цябе, не пакінуў Ты яго пад уладаю смерці.
Усім вось у міласэрнасці прыходзіш на помач, каб усе, шукаючы Цябе, знаходзілі. Многа разоў заключаў Ты прымірэнне з людзьмі і праз прарокаў напамінаў іх, каб чакалі збаўлення.
Ты так палюбіў свет, Ойча святы, што калі споўніўся час, паслаў Сына Твайго Адзінароднага Збавіцеля.
Ён, пачаты з Духа Святога, народжаны з Дзевы Марыі, прабываў паміж нас у чалавечым целе, падобны быў да нас ва ўсім апроч граху.
Абвяшчаў збаўленне ўбогім, палонным – вызваленне, сумным – радасць. Каб споўніць волю Тваю, выдаў сябе на смерць, а ўваскрасеннем з умёршых знішчыў смерць і аднавіў жыццё.
А каб не жылі мы больш для сябе саміх, а для таго, Хто за нас памёр і ўваскрос, як першы дар для тых, што вераць, Ён саслаў ад Цябе, Ойча, Духа Святога, які б завяршыў дзейнасць Ягоную на свеце і ўдасканаліў яго святасцю.

**Складае рукі і, працягнуўшы іх над дарамі, кажа:**

Таму просім Цябе, Госпадзе, каб той жа Дух Святы пасвяціў гэтыя дары.

Робіць знак крыжа над хлебам і віном:

Хай будуць яны Целам і + Крывёю Госпада нашага Езуса Хрыста.

Складае рукі:

Адпраўляць гэтую вялікую таямніцу паручыў Ён нам на вечнае прымірэнне.

Гаворыць паволі і выразна:

КАЛІ НАСТАЎ ЧАС, КАЛІ ПАВІНЕН БЫЎ БЫЦЬ УСЛАЎЛЕНЫ ТАБОЮ, ОЙЧА, ЕЗУС, ЯКІ, ПАЛЮБІЎШЫ ТЫХ, ШТО ЗНАХОДЗЯЦЦА НА СВЕЦЕ, ДА КАНЦА ПАКАЗАЎ ЛЮБОЎ СВАЮ, І ПАДЧАС ВЯЧЭРЫ

Бярэ хлеб у рукі і, падняўшы яго крыху над ахвярнікам, прадаўжае:

УЗЯЎ ХЛЕБ У СВАЕ СВЯТЫЯ І БЯЗВІННЫЯ РУКІ І, ПАДНЯЎШЫ ВОЧЫ ДА НЕБА ( падымае вочы), ДА ЦЯБЕ, БОЖА ОЙЧА ЎСЕМАГУТНЫ, ПАДЗЯКУ ТАБЕ СКЛАДАЮЧЫ, БЛАСЛАВІЎ, ЛАМАЎ І ПАДАЎ СВАІМ ВУЧНЯМ, КАЖУЧЫ:

Схіляецца крыху:

**БЯРЫЦЕ І ЕШЦЕ З ГЭТАГА ЎСЕ, БО ГЭТА ЁСЦЬ ЦЕЛА МАЁ, ЯКОЕ ЗА ВАС ДАЕЦЦА.**

Пасвячаную Гостыю, падняўшы паказвае людзям і зноў кладзе на патэну, прыкленчыўшы, адаруючы; потым кажа:

ПАДОБНЫМ СПОСАБАМ, ПА ВЯЧЭРЫ ЁН УЗЯЎ І ГЭТУ ПАЧЭСНУЮ ЧАШУ Ў СВАЕ СВЯТЫЯ І БЯЗВІННЫЯ РУКІ, ЗНОЎ ТАБЕ ПАДЗЯКУ СКЛАДАЮЧЫ, БЛАСЛАВІЎ І ПАДАЎ СВАІМ ВУЧНЯМ, КАЖУЧЫ:

Крыху схіляецца:

**БЯРЫЦЕ І ПІЙЦЕ З ЯЕ ЎСЕ, ГЭТА ЁСЦЬ ЧАША КРЫВІ МАЁЙ НОВАГА І ВЕЧНАГА ЗАПАВЕТУ, ЯКАЯ ПРАЛІВАЕЦЦА ЗА ВАС І МНОГІХ ДЛЯ АДПУШЧЭННЯ ГРАХОЎ. РАБІЦЕ ГЭТА НА МАЮ ПАМЯЦЬ.**

Падняўшы, паказвае чашу людзям, зноў ставіць на карпарал і з пашанай прыкленчвае; потым кажа:

С. Вось таямніца веры!

Л. Абвяшчаем смерць Тваю, Госпадзе, вызнаем Тваё ўваскрасенне, і чакаем Твайго прыйсця ў хвале.

Або:

Калі толькі ядзім хлеб гэты і п'ем з гэтай чашы, мы апавяшчаем смерць Тваю, Госпадзе, чакаючы прыйсця Твайго ў хвале.

Або:

Збаў нас, Збавіцелю свету, Ты праз крыж і ўваскрасенне адкупіў нас.

Пасля, працягнуўшы рукі, святар кажа:

С. Таму і мы, Госпадзе, чынячы цяпер успамін адкуплення нашага, успамінаем смерць Хрыстову і зыход Яго да пекла, вызнаем Яго ўваскрасенне і узыход да неба і, чакаючы Ягонага прыйсця ў славе, прыносім Табе, Божа, Ягонае Цела і Кроў, як мілую Табе і збавенную для ўсяго свету ахвяру.
Глянь, Госпадзе, на ахвяру, прыгатаваную Табою для Касцёла Твайго і дай ласку, каб усе ўдзельнікі гэтага аднаго хлеба і чашы з'ядналіся ў адно цела Духам Святым і сталіся жывой ахвярай у Хрысце на хвалу Тваю.
Помні таксама, Госпадзе, пра ўсіх, за каго мы Табе гэтую ахвяру прыпаручаем: перадусім за слугу Твайго Папу нашага НН і за біскупа нашага НН, і за ўсіх біскупаў і святароў, і за ўсіх, што прыносяць гэтую ахвяру і ўсіх прысутных, за ўвесь народ і тых, што Цябе шчыра шукаюць.
Помні таксама пра тых, што памерлі ў супакоі Хрыстовым і ўсіх памёршых, веру якіх Ты адзін знаеш.
Нам жа ўсім, дзецям Тваім, спагадлівы Ойча, дай быць удзельнікамі жыцця вечнага разам з Найсвяцейшай Дзевай Марыяй, Багародзіцай, з апосталамі і святымі Тваімі ў валадарстве Тваім, дзе з усім стварэннем, вызваленым ад граху і смерці, будзем Цябе славіць праз Хрыста Госпада нашага,

Складае рукі:

праз якога ўвесь свет абдзяляеш дабром.

Падняўшы патэну з Гостыяй і чашу, кажа:

П р а з Я г о, з І м і ў І м Табе, Усемагутны Божа Ойча, у адзінстве Духа Святога ўся хвала і слава спакон вякоў, вечна.

Л. Аман.

---

## АБРАД КАМУНІІ

Паставіўшы патэну і чашу на карпарале, святар склаўшы рукі, кажа:

С. Збаўленнымі прыказаннямі напомненыя і Божай установай навучаныя, асмельваемся казаць:

Падымае рукі і гаворыць разам з усімі людзьмі Малітву Гасподнюю:

Ойча наш, каторы ёсць у небе, святым будзь імя Тваё, прыйдзі валадарства Тваё, будзь воля Твая, як у небе, так і на зямлі. Хлеба нашага штодзённага дай нам сёння і адпусці нам нашы грахі, як і мы адпускаем вінаватым нашым; і не ўводзь нас у спакусу, але збаў нас ад ліхога.

Падняўшы рукі, святар прадаўжае сам:

С. Хавай нас, просім Цябе, Госпадзе, ад усякіх ліхоццяў, дай супакой у нашы дні і каб мы з міласэрнасці Тваёй былі ўхаваныя ад граху і забяспечаныя ад усякай трывогі і са шчаслівай надзеяй чакалі прыйсця Збавіцеля нашага Езуса Хрыста.

Складае рукі; людзі ўголас канчаюць малітву:

Л. Бо Тваё валадарства і моц, і хвала вечная.

Святар, падняўшы рукі, моліцца:

С. Госпадзе Езусе Хрысце, Ты сказаў апосталам Тваім: "Супакой мой даю вам"; не зважай тады на грахі нашы, але на веру Касцёла Твайго, і будзь ласкаў даць нам супакой і еднасць.

Складае рукі:

Ты жывеш і валадарыш на вякі вечныя.

Л. Аман.

Павярнуўшыся да народу, святар кажа:

С. Супакой Госпада ( Божы) хай будзе з вамі.

Л. І з духам тваім.

Потым, дзе прынята, святар кажа:

С. Перадайце адзін другому прывітанне міру.

Усе вітаюць адзін другога з мірам паводле звычаю; святар бярэ Гостыю, ломіць яе над патэнай і частку ўкладае ў чашу, кажучы ціха:

Гэтае злучэнне Цела і Крыві Госпада Нашага Езуса Хрыста хай будзе вам, якія прымаюць, на жыццё вечнае.

У міжчасе людзі спяваюць або гавораць уголас:

Л. Ягнё Божае, што адпускаеш грахі свету, зжалься над намі.
Ягнё Божае, што адпускаеш грахі свету, зжалься над намі.
Ягнё Божае, што адпускаеш грахі свету, дай нам супакой.

Святар, склаўшы рукі, ціха моліцца:

Госпадзе, Езусе Хрысце, Сыне Бога жывога, Ты з волі Айца пры саўдзельніцтве Духа Святога смерцю сваёю ажывіў свет, праз гэтае найсвяцейшае Цела і Кроў Тваю захавай мяне ад усіх маіх правінаў і ад усяго благога; дай, каб я заўсёды спаўняў загады Твае і каб ніколі не адлучаўся ад Цябе.

Або:

Хай прыняцце Цела і Крыві Тваёй, Госпадзе Езусе Хрысце, будзе мне не на асуджэнне і загубу, але за ласкай Тваёй паслужыць мне да захавання розуму і цела, і будзе лекам душы маёй.

Прыкленчвае, потым бярэ Гостыю і, трымаючы яе над патэнай, звяртаецца да людзей і кажа ўголас:

С. Вось Ягнё Божае, вось Той, хто адпускае грахі свету. Шчаслівыя пакліканыя на вячэру Ягоную.

Разам з усімі людзьмі прадаўжае:

Госпадзе, я не варты, каб ты увайшоў да мяне, але скажы толькі слова і ачуняе душа мая.

Павярнуўшыся да ахвярніка, святар кажа ціха:

Хай Цела Хрыстовае захавае мяне на жыццё вечнае.

Прымае з пашанаю Цела Хрыстова; потым бярэ чашу і ціха кажа:

Хай Кроў Хрыстова захавае мяне на жыццё вечнае.

Прымае Кроў Хрыстову. Потым бярэ патэну, або чашу з Гостыямі, і дае камунію людзям, кажучы за кожным разам:

Цела Хрыстова.

На што тыя, што прымаюць Камунію, адказваюць:

Аман.

Пасля камуніі святар ачышчае патэну над чашаю і самую чашу, абмываючы яе. Падчас ачышчэння каха ціха:

Што вуснамі прынялі, Госпадзе, хай прымем чыстым сэрцам і ад дару дачаснага хай будзе нам лякарства вечнае.

Святар вяртаецца да ўслону, і ён і ўсе людзі моляцца праз нейкі час ціха. Можна таксама ў тым часе прачытаць псалом, або спяваць адпаведную набожную песню. Потым, стоячы на ўслоне, святар каха:

С. Малемся.

Тут можа быць хвіліна ціхай малітвы, калі яе не было раней. Потым святар, з узнятымі рукамі, гаворыць уголас малітву пасля камуніі, пасля якой людзі кажуць:

Л. Аман.

## АБРАД ЗАКАНЧЭННЯ

Калі трэба, тут можна зрабіць кароткія паведамленні. Пасля святар, павярнуўшися да людзей, і расклаўшы рукі, каха:

С. Госпад з вамі.

Л. І з духам тваім.

Святар бласлаўляе народ, кажучы:

С. Няхай блаславіць вас усемагутны Бог, Айцец, Сын і + Дух Святы.

Л. Аман.

Павярнуўшыся да людзей, святар кажа:

С. Ідзіце ў супакоі, Служба Божая скончаная.

Л. Дзякуем Богу.

## КАНЕЦ СВЯТОЙ ІМШЫ

## ВЫБРАНЫЯ ПРЭФАЦЫІ
(да стар. 7)

### 1. Першая Прэфацыя Адвэнтовая (да 16 снежня)

Сапраўды дастойна гэта і справядліва, патрэбна і збавенна, каб мы Табе, Госпадзе Ойча ўсемагутны, вечны Божа, заўсёды і ўсюды падзяку складалі праз Хрыста Госпада нашага.
Ён праз першае прыйсце ў чалавечай натуры споўніў Тваё спрадвечнае рашэнне і адкрыў нам шлях да вечнага збаўлення. Ён ізноў прыйдзе ў светласці сваёй хвалы, каб уручыць нам абяцаныя дары, якіх мы цяпер, трудзячыся, з даверам чакаем.
Таму з анёламі і арханёламі, са святымі духамі і з усім карагодам нябеснага войска песню хвалы Табе спяваем, безупынна ўсклікаючы:

Святы, святы, святы ... (гл. стар. 7)

### 2. Другая Прэфацыя Адвэнтовая (ад 17 снежня).

Сапраўды дастойна гэта і справядліва, патрэбна і збавенна, каб мы Табе, Госпадзе Ойча ўсемагутны, вечны Божа, заўсёды і ўсюды падзяку складалі праз Хрыста Госпада нашага.
Усе прарокі Яго звяставалі, Яго Дзева Марыя чакала з невыказнай любоўю; Ян Хрысціцель абвяшчаў Ягонае прыйсце і, калі прыйшоў, паказаў Яго народу.
Сёння Ён цешыць нас таямніцай свайго нараджэння, каб, калі прыйдзе зноў, знайшоў нас трывалымі ў малітве і ўсхваленні Яго.
Таму з анёламі і арханёламі, са святымі духамі і з усім карагодам нябеснага войска песню хвалы Табе спяваем, безупынна ўсклікаючы:

Святы, святы, святы ...

### 3. Першая Прэфацыя на Нараджэнне Госпада (Каляды).

Сапраўды дастойна гэта і справядліва, патрэбна і збавенна, каб мы Табе заўсёды і ўсюды падзяку складалі, Госпадзе, Святы Ойча, усемагутны вечны Божа.
Бо праз таямніцу ўчалавечання Слова заззяла перад вачыма душы нашай святло Тваёй хвалы; бо мы, прызнаўшы Бога, які бачна стаўся

чалавекам, праз Яго змаглі палюбіць нябачныя рэчы.
Таму з анёламі і арханёламі, са святымі духамі і з усім карагодам нябеснага войска песню хвалы Табе спяваем, безупынна ўсклікаючы:

Святы, святы, святы ...

**4. Другая Прэфацыя на Нараджэнне Госпада.**

Сапраўды дастойна гэта і справядліва, патрэбна і збавенна, каб мы Табе, Госпадзе Ойча ўсемагутны, вечны Божа, заўсёды і ўсюды падзяку складалі праз Хрыста Госпада нашага.
У дзень урачыстасці гэтай хвалыгоднай таямніцы, Ён, нябачны ў Сабе, аб'явіўся нам бачна і, будучы народжаным спакон вякоў, стаў жыць у часе; Усё ўпаўшае Ён падняў і поўнасцю аднавіў, і прызначанага на загубу чалавека вярнуў у каралеўства нябеснае.
Адсюль і мы славім Цябе з усімі анёламі ў радасным святкаванні, усклікаючы:

Святы, святы, святы...

**5. Прэфацыя на Аб'яўленне Гасподняе.**

Сапраўды дастойна гэта і справядліва, патрэбна і збавенна, каб мы Табе, Госпадзе Ойча ўсемагутны, вечны Божа, заўсёды і ўсюды падзяку складалі праз Хрыста Госпада нашага.
Сёння на асвячэнне народам аб'явіў Ты ў Хрысце гэтую таямніцу нашага збаўлення, бо калі Адзінародны Сын Твой паказаўся ў нашай смяротнай натуры, Ты аднавіў нас новай Яго хвалой несмяротнасці.
Таму з анёламі і арханёламі, з тронамі і валадарствамі, і з усім карагодам нябеснага войска песню хвалы Табе спяваем, безупынна ўсклікаючы:

Святы, святы, святы ...

**6. Першая Прэфацыя Вялікапосная.**

Сапраўды дастойна гэта і справядліва, патрэбна і збавенна, каб мы Табе, Госпадзе Ойча ўсемагутны, вечны Божа, заўсёды і ўсюды падзяку складалі праз Хрыста Госпада нашага.
Бо пазваляеш вернікам Тваім штогод з ачышчанай душою радасна чакаць Вялікодных святаў, каб рупліва пасвячаючыся мольбам і

ўчынкам міласэрнасці, праз учасце ў сакрамантах адраджэння, дасягнулі поўнасцю Божага ўсынаўлення.
Таму з анёламі і арханёламі, з тронамі і валадарствамі, і з усім карагодам нябеснага войска песню хвалы Табе спяваем, безупынна ўсклікаючы:

Святы, святы, святы ...

**7. Другая Прэфацыя аб Муцы Хрыстовай ( у Вялікі Тыдзень).**

Сапраўды дастойна гэта і справядліва, патрэбна і збавенна, каб мы Табе, Госпадзе Ойча ўсемагутны, вечны Божа, заўсёды і ўсюды падзяку складалі праз Хрыста Госпада нашага.
Дзень Ягонае збавеннае мукі і хвалебнага ўваскрасення набліжаецца, калі і пыхлівасць даўняга ворага ўздымаецца, і калі таямніцу нашага адраджэння святкуем.
Праз Яго вось Маестат Твой адаруюць хоры анёлаў, радуючыся вечна перад Тваім абліччам.
Дазволь, просім, і нам далучыць да іх свае галасы і ў агульным захапленні ўсклікнуць:

Святы, святы, святы...

**8. Першая Прэфацыя Пасхальная (Вялікодная)**

Сапраўды дастойна гэта і справядліва, патрэбна і збавенна, каб мы Цябе, Госпадзе увесь час праслаўлялі, асабліва ў гэтую ноч [гэты дзень], калі Хрыстос быў ахвяраваны як наша Пасха.
Бо Ён з'яўляецца праўдзівым Ягнём, што адпускае грахі свету.
Ён сваёй смерцю знявечыў смерць нашу і вярнуў нам жыццё ўваскрасеннем.
Таму ўвесь свет цешыцца вялікаю вялікоднаю радасцю, а неба і хоры анёлаў пяюць Табе песню хвалы, безупынку ўсклікаючы:

Святы, святы, святы...

**9. Першая Прэфацыя на Ўшэсце.**

Сапраўды дастойна гэта і справядліва, патрэбна і збавенна, каб мы Табе, Госпадзе Ойча ўсемагутны, вечны Божа, заўсёды і ўсюды падзяку складалі.

Бо Госпад Езус, Валадар славы, Пераможца граху і смерці, вітаны анёламі, уваходзіць сёння ў неба. Ён - пасрэднік між людзьмі і Богам, Суддзя свету, Госпад магуццяў.
Ён, увайшоўшы ў неба, нас гаротнікаў не пакінуў, але папярэдзіў, каб мы, як ягоныя сачлены, трывалі ў пэўнасці, што пойдзем туды, куды Ён, як наша Галава, пайшоў першы.
Таму ўвесь свет цешыцца вялікаю вялікоднаю радасцю, а ўсё неба і хоры анёлаў пяюць Табе песню хвалы, безупынку ўсклікаючы:

Святы, святы, святы...

## 10. Першая Прэфацыя гадавая.

Сапраўды дастойна гэта і справядліва, патрэбна і збавенна, каб мы Табе, Госпадзе Ойча ўсемагутны, вечны Божа, заўсёды і ўсюды падзяку складалі праз Хрыста Госпада нашага.
Ім бо мы цудоўным чынам, вялікоднаю таямніцаю былі вызваленыя ад ярма граху і смерці і пакліканыя да хвалы. Цяпер мы з'яўляемся народам выбраным, усынаўлёным людам.
Дык усюды абвяшчаем усемагутнасць Тваю, бо Ты паклікаў нас з цемры да святла Твайго праўдзівага.
Таму з анёламі і арханёламі, са святымі духамі і з усім карагодам нябеснага войска песню хвалы Табе спяваем, безупынна ўсклікаючы:

Святы, святы, святы...

## 11. Другая Прэфацыя Эўхарыстычная.

Сапраўды дастойна гэта і справядліва, патрэбна і збавенна, каб мы Табе, Госпадзе Ойча ўсемагутны, вечны Божа, заўсёды і ўсюды падзяку складалі праз Хрыста Госпада нашага.
Ён, разам са сваімі вучнямі, спажываючы Апошнюю Вячэру і хочучы навек прадоўжыць памятку крыжовага збаўлення, ахвяраваў Табе самога сябе як Ягнё без заганы, як дар дасканалае хвалы.
Кормячы такой хвалыгоднай таямніцаю Тваіх верных, Ты асвячаеш і прасвятляеш адной вераю і аб'ядноўваеш адной любоўю ўвесь род людскі на зямлі.
Дык прыступаем да стала цудоўнага сакраманту, каб, напоўніўшыся асалодаю Тваёй ласкі, нам перайсці да жыцця на падабенства жыхараў неба.

Таму неба і зямля славяць Цябе новай песняй хвалы, і мы разам з хорамі анёлаў безупынку ўсклікаем:

Святы, святы, святы...

**12. Прэфацыя аб Найсвяцейшай Дзеве Марыі.**

Сапраўды дастойна гэта і справядліва, патрэбна і збавенна, каб мы Табе заўсёды і ўсюды падзяку складалі, Госпадзе Ойча ўсемагутны, вечны Божа.
На ўрачыстасць (назва свята) Найсвяцейшае Марыі, заўсёды Дзевы, славім і бласлаўляем Цябе, і аддаем Табе хвалу.
Яна бо за справай Духа Святога, пачала Адзінароднага Сына Твайго і, захоўваючы хвалу дзявоцтва, выдала на свет Святло Спрадвечнае, Езуса Хрыста, Госпада нашага.
Праз Яго Твой маестат славяць анёлы, адаруюць святыя духі, са страхам хваляць магуцці. Нябёсы і нябесныя сілы, разам з блаславёнымі серафімамі супольна з радасцю цябе спахваляюць.
Дазволь, просім, каб і мы сваімі галасамі пакорна аддавалі хвалу Табе, усклікаючы:

Святы, святы, святы...

**13. Прэфацыя аб анёлах.**

Сапраўды дастойна гэта і справядліва, патрэбна і збавенна, каб мы Табе заўсёды і ўсюды падзяку складалі, Госпадзе Ойча ўсемагутны, вечны Божа.
Анёлы Твае і арханёлы нязмоўкна праслаўляюць Цябе, бо належыцца Тваёй велічы і хвале, каб анёлы, творы Твае Цябе славілі. А калі ад анёлаў прымаеш такую хвалу, дык як жа бесканечна больш Ты, Госпадзе Бесканечны, павінен быць праслаўляны праз Хрыста Госпада нашага.
Праз Яго безліч анёлаў Тваіх славіць веліч Тваю, і мы разам з імі, пакланяючыся перад Табою, спяваем песню спахвалы:

Святы, святы, святы...

**14. Першая Прэфацыя аб Апосталах.**

Сапраўды дастойна гэта і справядліва, патрэбна і збавенна, каб мы Табе заўсёды і ўсюды падзяку складалі, Госпадзе Ойча ўсемагутны, вечны Божа.
Ты бо, Спрадвечны Пастыру, не пакідаеш Тваёй аўчарні, але акружаеш яе безупыннай апекаю, праз святых Апосталаў Тваіх, якім, як вярхоўнікам і намеснікам Сына Твайго, Ты паручыў пастырскую ўладу.
Таму з анёламі і арханёламі, са святымі духамі і з усім карагодам нябеснага войска песню хвалы Табе спяваем, безупынна ўсклікаючы:

Святы, святы, святы ...

**15. Прэфацыя аб святых.**

Сапраўды дастойна гэта і справядліва, патрэбна і збавенна, каб мы Табе заўсёды і ўсюды падзяку складалі, Госпадзе Ойча ўсемагутны, вечны Божа.
Цябе ў небе славяць святыя, бо Ты, узнагароджваючы іх заслугі, Тваімі ласкамі Сябе ўслаўляеш.
Ты вучыш нас браць прыклад з іх, асвячаеш лучнасцю з імі, заступніцтвам іх даеш нам апеку.
Такімі паручыцелямі ўпэўненыя, смела, як пераможцы, выходзім на змаганне. З імі здабудзем вянок хвалы праз Хрыста Госпада Нашага.
Таму з анёламі і арханёламі, з бязліччу святых Тваіх песню хвалы Табе прыносім, безупынку ўсклікаючы:

Святы, святы, святы...

**16. Першая Прэфацыя агульная.**

Сапраўды дастойна гэта і справядліва, патрэбна і збавенна, каб мы Табе, Госпадзе Ойча ўсемагутны, вечны Божа, заўсёды і ўсюды падзяку складалі праз Хрыста Госпада нашага.
У Ім захацеў Ты аднавіць усё, каб мы маглі ўдзельнічаць у жыцці, якое Ён у паўнаце мае.
Ён, будучы праўдзівым Богам, вынішчыў Самога Сябе і праз Кроў, пралітую на крыжы, прынёс супакой усяму свету.
Дзеля таго Ён быў вывышаны над усё стварэнне і стаўся прычынай вечнага збаўлення для ўсіх, што Яго слухаюць.

Таму з анёламі і арханёламі, з тронамі і валаданнямі і з ўсім карагодам нябеснага войска песню хвалы пяём Табе, безупынна ўсклікаючы:

Святы, святы., святы...

**17. Другая Прэфацыя агульная.**

Сапраўды дастойна гэта і справядліва, патрэбна і збавенна, каб мы Табе заўсёды і ўсюды падзяку складалі, Госпадзе, Святы Ойча, усемагутны вечны Божа.
З міласці Ты стварыў чалавека і, справядліва асуджанага, адкупіў ў Тваёй міласэрнасці праз Хрыста Госпада нашага.
Праз Яго маестат Твой славяць анёлы, бласлаўляюць святыя духі, з пашанай хваляць магуцці, нябёсы і моцы нябесныя, а з імі блаславёныя серафімы ў`супольнай радасці праслаўляюць.
Пазволь з імі і нам, просім, далучыць свае галасы ў пакорным хваленні, ускліаючы:

Святы, святы, святы...

**18. Прэфацыя аб памёрших.**

Сапраўды дастойна гэта і справядліва, патрэбна і збавенна, каб мы Табе, Госпадзе Ойча ўсемагутны, вечны Божа, заўсёды і ўсюды падзяку складалі праз Хрыста Госпада нашага.
У Ім бо заззяла для нас надзея хвалебнага ўваскрасення, і хоць нас засмучае непазбежнасць смерці, маем пацеху ў абяцанні будучай несмяротнасці.
Бо жыццё Тваіх вернікаў, Госпадзе, змяняецца, але не спыняецца, і калі распадзецца дом дачаснага прабывання, душы знойдуць у небе прыгатаваную сялібу.
Таму з анёламі і арханёламі, са святымі духамі і з усім карагодам нябеснага войска песню хвалы Табе спяваем, безупынна ўсклікаючы:

Святы, святы, святы ...

# З М Е С Т

| | Стар. |
|---|---|
| Пачатковыя абрады | 1 |
| Літургія Слова | 4 |
| Літургія Эўхарыстычная | 6 |
| Першая Эўхарстычная малітва | 8 |
| Другая Эўхарстычная малітва | 13 |
| Трэцяя Эўхарыстычная малітва | 17 |
| Чацвертая Эўхарыстычная малітва | 20 |
| Абрад Камуніі | 24 |
| Абрад заканчэння | 27 |
| Выбраныя Прэфацыі | 29 |